№ 64. 22 верэсьня 1916 г. Цэна 5 фэн.

# ГОМАН

БЕЛАРУСКАЯ ВІЛЕНСКАЯ ЧАСОПІСЬ

ВЫХОДЗІЦЬ ДВА РАЗЫ У ТЫДЗЕНЬ: У АЎТОРКІ І ПЯТНІЦЫ

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты:

на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы — 1 м. 20 ф., на 1 мес. — 40 фэн.

Адрэс рэдакцыі: Вільня, Завальная 7.

Адрэс адміністрацыі і экспэдыцыі:

М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак:

на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі — 25 фэніг.; дробные абвесткі— па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці — 60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

# ТЭЛЕГРАМЫ.

## У апошні момэнт.

—s—

### 21 верэсьня.

**Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго*: На поўначы ад Соммы, пры Курсэлет, доўгіе бітвы на ручные гранаты. Мейсцовые атакі ворагоў пры Флер, на заходзі ад Лебэф і пры Комбль адбіты. На палудзенным заходзі ад Ранкур і пры Бушавэн здабытая намі атакаю тэрыторыя пасьля цяжкіх бітв ізноў намі утрачэна. На палудні ад Ранкур мы удзержалі ся у здабытых акопах.

*Фронт нямецкаго Насьледніка*: На право ад Маасу сільным агнём артылерыі адбіты атакі ворагоў на адрэзку Тіомон—Флеры.

**Усходні тэатр:**

*Фронт Леопольда Баварскаго:* На заходзі ад Луцка расейская гвардія разам з іншымі вялікімі сіламі далей атакавала войска генэрала фон-дэр-Марвіц. Пры Корытніцы бітва яшчэ ня скончэна. Новые частые штурмы на іншых месцох на шырыні 20 кіломэтроў адбіты ізноў с самымі цяжкімі стратамі.

*Фронт эрц-гэрцога Кароля:* Бітва пры Нараёўцы трывае далей удачна для нас. У Карпатах ворагі і ўчора далей востра атакавалі. Ня лічучы мейсцовых удач, каторых ворагі дайшлі ў ваколіцы Пантыр і на адрэзку Татаркі (на паўночным усходзі ад Кірлі Бабы), яны адбіты с цяжкімі стратамі. Пры Бабе Людовай яны сем разоў штурмавалі нашы пазыціі. Утрачэную 17 верэсьня вяршыну Смотрыч мы адваевалі назад.

У Семіградзіі наабапол праходу Вулкан мы занялі пагранічные вяршыны.

**Балканскі тэатр:**

*Армейская група фэльдмаршалка Макензэна*: Бітва ў Добруджы спынілася.

*Македонскі фронт*: У часі удачных боўгарскіх атак у ваколіцах Флорыны французы мелі значные страты. Боўгарская конніца на ўсходзі ад места разагнала пяхоту ворагоў. Узято многа палонных і некалькі кулемётоў.

---

БУКАРЭШТ. „Indépendance Roumaine“, афіцыоз ураду, апавешчае афіцыальна:

„Мы упоўнамочэны заявіць, што афіцыальны перанос сталіцы еЩчэ не пастаноўлен.

---

**Уступка работнікам.**

ЛОНДОН. (В.Т.Б.). *Афіцыальна.* Спорка з жалезнадарожнымі работнікамі уладжэна. Ім даецца ваенная прыбаўка па 5 шылінгоў у тыдзень. Жадалі яны па 10 шылінгоў.

**Палажэньне ў Румыніі.**

ПЕЦЯРБУРГ. З Румыніі даходзяць чуткі, што боўгарскіе удачы ў Добруджы вызвалі там усё узрастаючы неспакой і **абурэньне на Расею**, каторую вінавацяць у **здрадзе**. Замест абецанай чысьленай падмогі ў Румынію прыбыў толькі невялікі экспэдыцыйны корпус лікам ня болей 150.000 душ.

ПАРЫЖ. Левые газэты многа пішуць аб справе помачы Румыніі. „Journal“ думае, што глаўная заслуга ў прылучэньні Румыніі да саюзьнікоў прыналежыць Італіі, дык яна і павінна найбольш паруПіцца аб помачы румынам. Італія павінна ратаваць Букарэшт, бо **на вялікшую падмогу ад Расеі нельга спадзевацца**.

ВЕНА. Паводлуг **вестак** с Пецярбурга, на апошняй расейскай ваеннай радзе цар жадаў ад прэдстаўнікоў Францыі, Англіі і Італіі, каб на ўсіх фронтах пачалі наступленьне ў адным часі і гэтак перашкодзілі ворагам пасылаць болей войска на Балканы. Далейшае **наступленьне ворагоў у Добруджы можэ і на Расеі адбіцца вельмі цяжка.**

---

## З апошніх дзён.

—s—

### Нямецкіе апавешчэньня.

**19.IX. Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго*: На Сомме—без вялікшых бітв, апрыч артылерыйскіх. На ўсходзі ад Жэншi і Комбль мы пакінулі ворагам некалькі зусім зруйнаваных акопоў і адбілі мейсцовые атакі на Бэлюа і Вэрмандовільe.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* На лево ад Маасу наступленьне французоў на заходзі ад Мёртваго Чэлавека на нейкі час дайшло да нашых акопоў.

**Усходні тэатр:**

*Фронт Леопольда Баварскаго*: Нямецкае і аўстрыяцкае войскі штурмавалі сільна умацаваные перадмостные акопы на Стоходзі, на поўначы ад Зарэчан, і гналіся за ворагамі ажно на усходнім беразі. Узяты 31 афіцэр і 2511 салдатоў палонных і 17 кулемётоў. Пры Перэпельніках, між Сэрэтам і Стрыпай, нямецкі егерскі патруль узяў у палон 2 афіцэроў і 80 салдатоў.

*Фронт эрц-гэрцога Кароля*: Контратакамі пры Нараёўцы мы дайшлі новай удачы. Чысло палонных узрасло вышэй за 4200 душ. У Карпатах ад Смотрыча да Кірлі-Бабы—вострые бітвы. Ў ваколіцах Людовай ворагі мелі невялікую удачу. Наабапол Дорна Варта расейцы і румыны мелі многа страт у дарэмных штурмах.

У Семіградзіі, на палудзенным усходзі ад Гэтсінга, румыны разбіты войскам генэрала Штабс. За імі ідзе пагоня.

**Балканскі тэатр:**

*Фронт фэльдмаршалка Макензэна:* Учора злучэные войскі ўварваліся на успамянутые расейска-румынскіе пазыціі.

*Македонскі фронт:* Пры Флорыне пачаліся новые бітвы.

**20.IX. Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* На Сомме—без выдатных прыпадкоў.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* На заходнім склоне Мёртваго Чэлавека французы выбіты з рэшты занятых імі акопоў. Узяты 98 палонных і 8 кулемётоў. Нашы патрулі ўзялі ў палон 46 французоў і расейцоў.

**Усходні тэатр:**

*Фронт Леопольда Баварскаго:* На заходзі ад Луцка проці войск генэрала Марвіца развіліся ў дзень толькі мейсцовые атакі ворагоў. На большай часьці фронту расейскую пяхоту нават агонь сваей артылерыі ня мог выгнаць на штурм з акопоў. Толькі вечэрам і ў начы пачаліся атакі магутнымі хвалямі, але былі ізноў зломлены з надта вялікімі стратамі. Пры Шэльвове ворагі на нейкі час былі ўварваліся ў нашы акопы, але былі выкінуты назад без астатку.

*Фронт эрц-гэрцога Кароля:* Пры Нараёўцы далей ідуць удачные для нас бітвы. У Карпатах, ужо пакрытых сьнегам, трываюць расейскіе атакі. На асобных мейсцох ворагі мелі удачу.

На семіградзкім фронці румыны выкінуты назад за Шурдукскі праход.

**Балканскі тэатр:**

*Армейская група генэрала-фэльдмаршалка Макензэна*: У Добруджы развіліся вострые бітвы с рэраменнай удачай. Пасьпешна падвезенай падмогай расейцы аказваюць вельмі сільны апор на сваіх пазыціях.

*Македонскі фронт*: Пры Флорыне і Кайнаккалане атакі ворагоў адбіты. 17 верэсьня боўгары выкінулі італьянцоў із вёсак Матніка і Порой і ўзялі ў палон 5 афіцэроў і 250 салдатоў.

---

### Аустрыяцкіе апавешчэньня.

ВЕНА. 18 IX. **Усходні тэатр:**

Румынскі фронт: Пры Гэтсінгу—новые удачные бітвы. Учора ўзяты 7 румынскіх гармат і некалькі кулемётаў. Ворагі бяз бітвы увайшлі ў Когалём.

Фронт эрц-гэрцога Кароля: у Карпатах ворагі дарэмна атакавалі на Дорна Варта і пры Грыняве. Яны ўсюды адбіты. Армія гр. Ботмэра ўзяла 16 афіцэроў, больш за 4,000 салдатоў і 16 кулемётоў.

Фронт Леопольда Баварскаго: проці генэрала Бэм-Эрмолі каля Зборова ворагі ўчора штурмавалі ізноў. Яны ўсюды былі адбіты.

---

Гл. тэлеграмы на 3 страніцы.

кого Граданачальніка, — павінны падаць Нямецкаму Граданачальніку (Polizeiverwaltung), Домініканская 3, просьбу аб пазваленьне занімацца іх промыслам ураз-жэ і не пазьней, як у восем дзён ад дня гэтага апавешчэньня.

У просьбі павінно быць паказано імя, век і вера прасіцеля, якое прэдпрыемство (ці с спіртнымі напіткамі) і дзе яно знаходзіцца, число занятых гаспод і памочных памешчэньнёў, ці памешчэньня (спальні, гасподы) гаспадара і яго служачых знаходзяцца пры самым прэдпрыемстве, сколькі і гдзе атходжых мейсц, число і пол служачых, а так сама і тое, ці бываюць там ваенные.

Хто ня мае установленага пазваленьня, або не паклапоціцца аб яго у свой час, таго караціимуць на моцы § 9 загаду с 7 студня 1916 г. аб зборы с пазваленьня на тракціры штрафам грашмі ад 50 да 3.000 м., замест каторых, калі яны ня будуць заплочэны, назначаецца вастрог да 6 месяцоў. Апрыч кары, ў кожным прыпадку будзе загадано зачыніць прэдпрыемство.

Вільна, 11 верэсьня 1916 г.

Нямецкі Граданачальнік
**Поль.**

× **Апавешчэньне.** Звертаецца увага цывільных жыхароў на тое, што яны на трэбаваньня караулоў і патрулёў, каторые пільнуюць вуліцы і дарогі з Вільні на граніцах Граданачальства, затрымацца пры кліку «halt» павінны той-час астанаўлівацца; іначэй у іх будуць стрэляць.

Вільна, 19 верэсьня 1916 г.

Граданачальнік
**Поль.**

× **Спроба самагубства.** 19 верасьня Язэп Войшутіс, 49 гадоў, пражываючый на Рудніцкай вуліцы у доме № 3, дзеля самагубства напіўся бэнзыны. Вызваная карэтка скорай мэдычнай помачы Войшутіса адратавала.

## З усяго Краю.

**У местовым „Бэйраце“.**

ГАРОДНЯ. Замест пакінуўшаго с прычыны старасьці местовую раду („Beirat“) Толлочкі назначэн Вітольд Жджарскі.

**Скупка каштаноў і жалудоў.**

ГАРОДНЯ. Местовы урад скупляе каштаны і жалуды і плаціць зара пасьля дастаўкі тавару за двайны цэнтнэр (=6 пудоў) каштаноў — 4,50 м., а жалудоў — 5.50 м.

**Спіс жыхароў.**

БЕЛАСТОК. 5 кастрычніка тут адбудзецца спіс жыхароў. Гаспадаром дамоў дадуць лісткі с пытаньнямі, на каторые яны павінны будуць выпісываць атказы. Калі хто не захочэ даць акуратнаго атказу, таго караціимуць штрафам да 300 марак або адпаведным арэштам.

**За нарушэньне таксы.**

ФІЛІПОВО. Адзін тутэйшы тарговец за фунт цукру замест установленай найвышэйшай цаны 31 кап. узяў 40 кап. Суд засудзіў яго за гэта на 40 м. штрафу або 8 дзён вастрогу.

**Школьные справы.**

СЬВЕНЦЯНЫ. Ад мая месяца тут наладжэна школа, ў каторай вучацца дзеці ўсіх рэлігій, падзеленые на класы. У школу ходзіць да 600 дзяцей. Цяпер пад школу ладзіцца новы будынак, каторы будзе ужываны пасьля восенных вакацій.

**Помач бедным.**

ЛІБАВА. Асобам, каторые ня маюць с чаго жыць, место выдало ўчора падмогу на два чародные тыдні. Число бедных шмат паменшало.

## ВЕСТКІ З РАСЕІ.

———

**Жалезна-дарожная пазыка.**

ПЕЦЯРБУРГ. Рада міністроў апрацавала умовы $4^1/_2$ працэнтнай жалезна-дарожнай пазыкі на 350 мільёноў. Курс пры выпуску — 73.

**Пецярбург без апалу.**

ПЕЦЯРБУРГ. С прычыны ўзросту цэн за апал і спадзеванай немагчымасьці даставаць яго гэтай зімой 63 электрычные станціі ў Пецярбурзі спынілі работу. З гэтай прычыны местовая станція прымушэна даваць на 2.200 кв. электрычнай энергіі болей.

**Сьвёкла ў Сібіры.**

ТОМСК. Тут аткрылося таварыство капіталістоў дзеля разводкі сьвёклы ў Сібіры. Аснаўны капітал т-ва — 1 мільён рублёў.

**Зьмена пасла.**

ШТОКГОЛЬМ. Расейскі пасол у Лондоні, граф Бэнкендорф, як кажуць, скора пакідае сваё мейсцо. Штырмэр лічыць, што Бэнкендорф лішне вялікі прыяцель англічан і не даволі добра бароніць у Лондоні справы Расеі.

**Адгалоскі пагібелі гвардіі.**

ЦУРЫХ. Як даносяць с Пецярбурга, камандзір корпуса гвардіі, ген. Безобразов, відаць, с прычыны аграмадных страт людзьмі пры Стоходзі, атрымаў адстаўку.

**„Работа“ інтэндантоў.**

ШТОКГОЛЬМ. „Русск. Вед.“ даносяць с Кіева, што там выйшоў скандал у інтэнданцтве. Палкоўніка Рэні і многа пастаўшчыкоў вінавацяць у тым, што яны пастаўлялі ў армію гнілое і с трыхінамі мясо, ад катораго многа людзей захварэло.

**За вымаганьне грошы у салдатоў.**

БЭРЛІН. Паводлуг вестак з Расеі, начальнік 2-го расейскаго абознаго батальёну, падпалкоўнік Белозерковскій, ваенным судом засуджэн на 8 гадоў у арэштанцкіе роты за вымаганьне грошы — агулам больш 17,000 руб.—у унтэрафіцэроў і салдатоў. Неколькі другіх афіцэроў с тагож батальёну за той самы праступак засуджэны на 3 гады ў вастрог.

**Пасьпяшыліся!..**

СОФІЯ (В.Т.Б.). Паводлуг газэт, расейская армія прывезла с сабой у Добруджу цэлую армію чыноўнікоў, каторые былі назначэны на розные адміністрацыйные мейсцы ў Добруджы, калі-б яе званвалі, і цяпер папалі ў палон. Цяпер яны ў тых-жэ местох будуць чысьціць вуліцы.

## З усяго сьвету.

**Прарыў грэблі.**

БЭРЛІН. У паўночна-усходняй Богэміі пад націскам вады разарвалася грэбля на Белай Дэссэ на 80 мэтроў удоўжкі і на 20 м. шырокая. Грэбля здзержывала рэзэрвуар на 400.000 куб. мэтроў і трывала толькі адзін год. Зруйнаваны фабрыкі, каторым рэзервуар даваў энэргію. Дагэтуль знойдзены 250 трупоў.

## ТЕЛЕГРАМЫ.

**Аустрыяцкіе апавешчэньня.**

**Італьянскі тэатр:** Учора III італьянская армія вела новые штурмы на ўсім фронці плоскагорыя Карст. І на гэты чацьвёрты дзень бітвы абаронцы удзержалі ў сваіх руках усе пазыціі. Дзе ворагі ўрываліся ў пярэдніе акопы, іх адтуль выкідалі контратакамі. Большая часць атак была зломлена ўжо ў самым іх пачатку пад концэнтрычным агнём нашай артылеры. Сільны агонь артылеры трывае далей ад Віппаха да Плавы.

У начы с 17 на 18 верэсьня марскіе лятучые эскадры атакавалі Мэстрэ і абкідалі жалезнадарожные будоўлі цяжкімі і лёгкімі бомбамі. Ня гледзячы на заядлы абстрэл, усе лятуны вярнуліся назад.

ВЕНА, 19.IX. **Усходні тэатр:** (гл. нямецкае апав.).

**Італьянскі тэатр:** На плоскагоры Карст учора было спакайней, бо энергія ворагоў, відаць, аслабела. Агонь артылеры быў вельмі сільны. Пры Флічу і на хрыбце Фассанскіх Альп нашае войско адбіло некольні штурмоў.

ВЕНА 20.IX. **Усходні тэатр:** (гл. нямецкае апавешч.).

**Італьянскі тэатр:** Італьянскі агонь проці плоскагорыя Карст ізноў момэнтамі даходзіў вялікай сілы. Як цяпер выясьнена, абаронцы плоскагорыя мелі проці сябе ў 4-дзённай цяжкай бітве 20 пешых брыгад, 1 конную дывізію,

---

Власт.

## Наездчык.

**Гістарычнае апаведаньне.**

(Гл. «Гоман» №№ 55—60).

— Ну, таварышы,—скамандаваў Прушко, — бярыця сьвятых айцоў, ды патужэй звяжыця іх благаслаўляючые рукі, а ты, пане ротмістр, знімі гэны ключы са сьцяны,—яны мабыць ад сьвятынюхны!—і, узяўшы ксяндзоў, з запаленымі лучніцамі, пайшлі у касьцёл. Увайшоўшы, яны былі здзіўлены багацтвам (хараство іх не займало): абразы блішчэлі золатам і серабром, іншые з іх былі асыпаны самацьветнымі каменьнямі і пэрламі. Касьцельнае начыньне было залочэнае і нават іншые штукі саўсім былі залатые. Некольні хвілін яны стаялі атарапеўшы, але прагавітнасць Хілеўскаго асьмеліла ўсіх: ён першы пачаў знімаць шату, абсыпаную пэрламі; за ім кінуліся ўсе і за некольні мінут сьвятыня была аграблена. Прушко пачаў ламаць скрыню, дзе хаваліся касьцельные грошы, але нельга уявіць яго злосьці, калі ён, разламаўшы, знайшоў у ей толькі ўсяго некольні манэт. Ён падбег да старога пароха с крыкам:

— Дзе грошы, прызнавайся, або я распластаю цябе!

— Ніхай даруе вам Найвышні, бо ня ведаеце, што робіце. Мы сказалі вам раней, што грошы у нас німа.

— Годзі ілгаць!—крыкнуў Прушко і ударыў рукаяткай палаша па галаве: старэц зваліўся, абліваючыся крывёй.

— Во гэтые нам скажуць,—паказаў Прушко на маладых вікарых. Прывяжыця іх да стоўбніц!—загадаў Прушко.

Калі загад быў выпаўнен, Хілеўскі прынёс вялікае начыньне з алівай і выліў на вікарых.

— Кажыця, дзе грошы?—закрычаў ён на іх.

— У нас німа грошы,—быў ціхі атказ мучэнікоў.

Тады, ўзяўшы лучніцу, ён падпаліў намокшую алівай іхню адзежу і, забраўшы награбленае, выйшлі і падпалілі сьвятыню.

У тым часе, як гэта дзеялося у касьцелі, на падворку адбываліся ня менш крывавые справы. Баючыся, каб роботнікі не далі знаць селянам, Прушко загадаў хату, у каторай вячэрало 8 чэлавек наймітоў, аблажыць саломай і падпаліць. Калі бяздольнікі убачылі, што іх чэкае, што прасіць ашчады дарэмна, здаўшыся на Божу апеку, палі на калені перад абразом і запеялі:

Вітай, Марыя, Хрыстова Маці,
Дазволь нам грэшным Табе чэсць даці,
Прыймі Ты нашы просьбы ніскіе,
Маліся за нас—
Вітай Марыя!

Але скора пеяньне замоўкло, яны задыхаліся ад дыму, памлеўшы пападалі і, не прыходзячы да прытомнасьці, сталіся дабычай агня.

Высока падымаліся стаўбы белаго полымя, ахапіўшые сьвятыню, уносячы с сабой да Божаго пасаду душы нявінна замучэных справядліўцоў. А тымчасам пажар асьвяціў усю ваколіцу і разбудзіў спакойна спаўшых апасьля працавітаго дня селян. С крыкам роспачы яны кінуліся да гарэўшаго касьцёлу, але уратаваць ужо яго нельга было. Крык і гоман колькісотнай таўпы даляцеў да вушэй грабежнікоў: хмель іх выветрыўся, яны пачулі непакой: баяліся помсты селян, калі-б тые дагадаліся, што гэта спраўка іхніх рук, і ўсе с трусьлівай пасьпешнасьцю седлалі і садзіліся на коней.

— А цяпер, братцы, памолімся!—скамандаваў Прушко і, зняўшы шапку, заінтанаваў па ваеннаму:

„Zacznijcie wargi moje
„Chwalić Pannę Świętą...“

Уся банда хутка скінула такжэ шапкі і падхапіла сотняй крэпкіх галасоў:

„Zacznijcie opowiadać
„Cześć jej niepojętą...“

І хрысьціянскіе рыцары з набожным сьпевам, пры блеску пажару, праехалі, нікім не západозрэные, у старану Стараcельля. Забраўшы там рэшту кампаноў, пад камандай Прушко паехалі ў сьвет.

(Далей будзе).

